Праваабарончы
# Веснік
люты 2014
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# ЯЎГЕН ВАСЬКОВІЧ — ЧАЦЬВЁРТЫ ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

26 лютага ў палітвязня Яўгена Васьковіча дзень народзінаў. Яму споўнілася 23 гады. Апошнія чатыры з іх ён адзначае ў няволі.

Як сцвярджаюць ягоныя паплечнікі з аргкамітэту дзеля стварэння партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», палітвязня больш як месяц ужо не караюць штрафным ізалятарам у магілёўскай турме №4. Раней, паводле іхных звестак, Яўген праводзіў у карцэры да 20 дзён на месяц. Партыйцы заяўляюць, што супраць зняволенага актывіста ўжываюцца катаванні, і патрабуюць ад турэмнай адміністрацыі спыніць іх.



Пра тое, што стаўленне да Яўгена Васьковіча з боку турэмнай адміністрацыі змянілася, кажа адказны сакратар аргкамітэту партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Дзяніс Садоўскі. Ён лічыць, што гэтага ўдалося дасягнуць, абнародаваўшы звесткі пра ўмовы ўтрымання Васьковіча ў турме, а таксама пра ягоны фізічны стан. Паводле партыйца, з кастрычніка 2011 году, калі Яўгена змясцілі ў турму № 4, у штрафным ізалятары ён адседзеў 247 сутак. Пры росце ў 186 сантымэтраў ён важыць 65 кілаграмаў.

«Пасля таго, як мы агучылі гэтыя жахлівыя лічбы, была даволі бурная рэакцыя кіраўніцтва турмы й мясцовых уладаў. Яны ўсё гэта абвяргалі», — кажа Дзяніс Садоўскі і адзначае пазітыўны бок сітуацыі для Васьковіча:

«Аднак факт такі, што яго, паводле нашай інфармацыі, цяпер ня кідаюць у ШЫЗА. Туды яго не змяшчаюць фактычна паўтара месяца. За час, што ён у Магілёўскай турме, не было такога ніколі».

Родныя Васьковіча — маці і дзве бабулі — сустракаліся з ім у турме. Яны адзначаюць, што Яўген не наракаў на асаблівае стаўленне з боку турэмшчыкаў. Адна з бабуляў, Тамара Ўладзіміраўна, спрабавала распытаць яго пра ўмовы ўтрымання.

«Ён нам нічога такога не гаварыў. Увесь час усміхаўся і казаў, што ў яго ўсё нармальна, — згадвае Тамара Ўладзіміраўна і пераказвае гутарку з унукам. — А я ў яго запыталася: „А чаго ты схуднеў?“ А ён мне адказвае: „Бабуля, а я ўжо на пяць

Працяг на стар. 2

# В УКРАИНЕ ПРЕЗИДЕНТА ОТСТРАНИЛИ ОТ ВЛАСТИ

**Янукович сбежал в Россию, его сторонники объединились с оппозицией, а Москва оккупирует Крым**

После трех месяцев массовых протестов в столице Украины режим Януковича решил использовать силу для разгона манифестантов, не остановившись и перед использованием оружия. В результате погибли не менее 88 человек, сотни ранены.

Под давлением, с одной стороны, Майдана, и западных политиков — с другой, бывший президент был вынужден остановить своих силовиков — и сразу сбежал из страны.

Верховная Рада немедленно отстранила Януковича от власти, а затем утвердила новое правительство. В Раде сформировалось новое большинство — из Партии Регионов Януковича массово вышли десятки депутатов.

А пока правительство в Киеве ломает голову, что делать с разграбленной режимом Януковича казной, Москва разыгрывает свой обычный сценарий: поддержка сепаратизма, провоцирование конфликтов, вооруженное вмешательство российских «миротворцев», создание марионеточного правительства, и в итоге — раскол страны. Так, как это уже было в Нагорном Карабахе, Приднестровье, Абхазии и Южной Осетии.

# МАГІЛЁЎШЧЫНА: У СКЛАДЗЕ ЎЧАСТКОВЫХ КАМІСІЙ НЯМА НІВОДНАГА АПАЗІЦЫЯНЕРА

**Апазіцыянеры з Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” і Аб’яднанай Грамадзянскай партыі вылучалі ад сваіх партый у склад участковых выбарчых камісій 19 і 10 чалавек адпаведна.**

**Усяго ў вобласці ўтворана 785 выбарчых камісій. У іх склад увайшлі 8521 чалавек.**

**Шляхам збору подпісаў ў камісіі вылучана 3448 чалавек, ад грамадскіх арганізацый – 3321 чалавек, ад працоўных калектываў – 1752.**

**Сярод праўрадавых грамадскіх арганізацый Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі вылучыла 1045 чалавек, “Белая Русь” – 503, БРСМ - 420, аб’яднанне ветэранаў – 354, Беларускі саюз жанчын – 318.**

**Ад палітычных партый у склад камісій уключана ўсяго 53 чалавекі. Усе яны прадстаўляюць праўладныя партыі: 39 – Рэспубліканскую партыю працы і справядлівасці, а 14 – Камуністычную партыю Беларусі.**

# ЯЎГЕН ВАСЬКОВІЧ — ЧАЦЬВЁРТЫ ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

*Працяг са стар. 1*

кілаграмаў паправіўся. Быў шэсцьдзесят кілаграмаў, а стаў шэсцьдзесят пяць“. Дык што ты, пытаюся, сядзіш у санаторыі, а не ў турме? А ён мне: „Ну, не ў санаторыі, але...“ Ён ня хоча гаварыць праўды, я так зразумела, бо яму будзе кепска. Я яму сказала, што ўсе яму перказваюць вітанні. А ён мне: я нічога ні ад кога не атрымліваю. Пошты ён не атрымлівае», — кажа бабуля Яўгена Васьковіча.

Закранула Тамара Ўладзіміраўна і пытанне пра напісанне ўнукам ліста пра памілаванне. Ён на гэта адказаў, зазначае яна, каротка: «Я нікому кланяцца ня буду, і гаворка на гэтым скончана».

У Бабруйску на працягу апошніх двух гадоў на дзень народзінаў Васьковіча збіраюцца мясцовыя актывісты, каб згадаць усіх беларускіх палітвязняў. Сёння на вечарыне гасцюе Павал Севярынец. На пытанне, хто Васьковіч — герой ці ахвяра, лідэр беларускіх хадэкаў адказвае, што Яўген — гераічная постаць. Палітык заўважае:

«Як хрысціянскія дэмакраты мы не ўхваляем такіх мэтадаў, але і ягоны ўчынак, і гераічныя паводзіны на судзе і падчас адседкі — сведчанне мужнасці Яўгена, — кажа Павал Севярынец. — Ён праз сваю асабістую ахвяру дамагаецца перамогі для нас усіх. Гэта тая мужнасць, якая зрабіла героем Каліноўскага».

Яўгена Васьковіча ў 2011 годзе асудзілі на 7 гадоў зняволення за напад на будынак Бабруйскага КДБ з выкарыстаннем бутэлек з «кактэйлем Молатава». Віны актывіст не прызнаў. У гэтак званую «крытку» яго змясцілі пасля абвінавачання ў злосным парушэнні рэжыму ўтрымання ў папраўчай калоніі.

Беларускія праваабаронцы лічаць Васьковіча палітвязнем. Яны зазначаюць, што прысуд яму і яшчэ двум хлопцам, якія разам з ім удзельнічалі ў нападзе на будынак спецслужбы — Паўлу Сырамалотаву і Арцёму Пракапенку — вынесены непрапарцыйна жорсткі.

*«Радыё Свабода»*

# МІЛІЦЫЯ ВЯРНУЛА МАГІЛЁЎСКАМУ АПАЗІЦЫЯНЭРУ КАМПУТАР ПОЎНЫ ВІРУСАЎ

**Кастрычніцкі суд Магілёва пакінуў у сіле вырак сябру АГП Антону Касцову, якога асудзілі на трое сутак адміністрацыйнага арышту напрыканцы снежня 2013 году.**

Нагодай для адміністрацыйнага пераследу Антону Касцова сталіся ягоныя допісы ў суполках «Стоп страх» і «Стоп падатак-2», створаных у сацыяльнай сетцы «Ўкантакце». Удзельнікі суполак заклікалі да штотыднёвых акцыяў пратэсту. Першую такую акцыю меліся правесці аўтамабілісты 27 снежня. 26 снежня Касцова пасадзілі.

21 лютага падчас паўторнага разгляду справы Антон Касцоў даказваў, што выстаўленыя супраць яго абвінавачанні былі незаконныя.

«На працягу дзвюх гадзінаў я ў судзе адстойваў сваю пазіцыю. Я лічу гэта маёй маленькай барацьбой з рэжымам. Для мяне прымальная любая форма барацьбы. Сёння я стаў кандыдатам у дэпутаты і гэта таксама форма барацьбы з гэтым рэжымам. Я буду працягваць змагацца з імі і праз інтэрнэт. Буду ствараць свой сайт з выкрывальніцкімі публікацыямі», — заявіў «Свабодзе» Антон Касцоў.

Дарэчы, падчас адседкі Касцоў з матэрыялаў справы даведаўся, што кампутар, забраны ў яго следчымі, без ягонай прысутнасці быў ускрыты. Вярнулі яго, як запэўнівае Касцоў, бяз вонкавых прыкметаў пашкоджання пломбы на пакунку. Але актывіст кажа, што ў кампутары пасля канфіскацыі выявіў 320 вірусаў.

*«Радыё Свабода»*

# ЯРМОШЫНА ЛІЧЫЦЬ, ШТО ВЫБАРШЧЫК НЯ МАЕ ПРАВА ПРАВЯРАЦЬ ВЫКАНАННЕ ВЫБАРЧАГА ЗАКАНАДАЎСТВА

Магілёўскі актывіст Анатоль Заў'ялаў атрымаў адказ ЦВК на сваю скаргу аб адмове ў прадастаўленні інфармацыі Ярмошына зазначае, што выбаршчык не надзелены правам праверкі выканання выбарчага заканадаўства: «Рашэнне пра ўтварэнне камісій у сямідзённы тэрмін з дня яго прыняцця публікуецца ў друку... У рашэнні ўказваюцца

действующее законодательство не наделяет Вас как избирателя правом проверять соблюдение требований избирательного законодательства ни при образовании избирательных комиссий, ни при совершении иных избирательных действий.

Казіміраўскай акруговай выбарчай камісіяй №32 у Магілёве.

А. Заў'ялаў спрабаваў здабыць ў акруговай камісіі інфармацыю пра месца працы яе сябраў, каб пераканацца, што выконваюцца палажэнні артыкулаў 34 і 37 выбарчага кодэксу, якія абмяжоўваюць сяброўства ў выбарчых камісіях дзяржслужбоўцаў і падначаленых кандыдатаў.

На свой запыт актывіст атрымаў з АВК адпіску, ў якой напісана, што дадзеныя пра сяброў камісіі былі апублікаваныя ў друку. Не пагадзіўшыся з такім «адказам», А. Заўялаў накіраваў скаргу ў Пракуратуру і выбарчыя камісіі вышэйшага роўню, ў якой прасіў правесці праверку.

У адказе, які актывіст атрымаў з ЦВК, яго старшыня Лідзія Акрамя таго, старшыня ЦВК лічыць, што Заў'ялаў не мае права і на тое, каб ведаць месцы працы сяброў выбарчай камісіі. Паводле Л. Ярмошынай, інфармацыя пра выбарчыя камісіі і іх сябраў прадастаўляецца ў аб'ёме, вызначаным у арт. 34 ВК. Згодна з ч.7-й артыкулу, ў рашэнні пра фармаванне камісій указваецца прозвішча сябра камісіі ды спосаб яго вылучэння ў склад камісіі. Паколькі ўказанне іншых дадзеных у рашэннях аб фармаванні камісій кодэксам не прадугледжана, - лічыць старшыня ЦВК, - выбаршчык ня мае і права на тое, каб ведаць нешта іншае.

Неабходна дадаць, што ч.7 арт.34 ВК Беларусі тычыцца апублічвання інфармацыі пра сфармаваныя камісіі і гаворыць літаральна наступнае: прозвішча, імя, імя па бацьку кожнага сябра камісіі, спосаб вылучэння ў склад камісіі, месца знаходжання і нумары тэлефонаў камісіі».

Як і ў выпадку з правамі назіральнікаў, якія ЦВК лічыць абмежаванымі спісам правоў назіральніка, ўказаным у арт.13 ВК, так і ў дадзеным выпадку, закон трактуецца Лідзіяй Ярмошынай згодна з правілам «забаронена ўсе, што не дазволена», што супярэчыць элементарным асновам права. Калі кіравацца гэткай логікай, назіральнікам варта забараніць і дыхаць, - бо гэта ж не прадугледжана ніякім артыкулам Выбарчага кодэксу.

Акрамя таго, дзеянні акруговай выбарчай камісіі і ЦВК наўпрост парушаюць ч.1 арт 13 ВК, згодна з якой выбары адбываюцца адкрыта і галосна.

**БОЛЕЙ ПРАВААБАРОНЧЫХ НАВІНАЎ ЧЫТАЙЦЕ НА**

**www.mahilyowspring.org**

# ПОДДЕРЖИТЕ ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫХ!

Людям, которые лишены свободы за свои убеждения, особенно важна поддержка общества. Найдите несколько минут и напишите письмо политическим заключенным! Возможно, именно ваши слова помогут им выдержать испытание неволей.

**Алесь Беляцкий:**
213807, Могилевская обл., г. Бобруйск, ул. Сикорского, 1, ИК №2, отряд 14

**Николай Статкевич, Евгений Васькович, Николай Дедок:**
212011, г. Могилев, ул. Крупской, 99а, тюрьма №4

**Артем Прокопенко:**
213105 г. Могилев, Славгородское шоссе, 183, ИК №15

**Андрей Гайдуков:**
213030, г. Могилев, Славгородское шоссе, 3-й км, ИК №19

**Николай Автухович:**
230023, г. Гродно, ул. Кирова, 1, тюрьма №1

**Эдуард Лобов:**
225295, Брестская обл., г. Ивацевичи, «Волчьи норы», а/я 20, ИК №22

**Игорь Олиневич:**
211440, Витебская обл., г. Новополоцк, ул. Техническая, 8, ИК №10

**Василий Парфенков:**
213410, Могилёвская обл., г. Горки, вул. Добролюбова, 16, ИК-9

**Владимир Яроменок:**
225413, Брестская обл., г. Барановичи, ул. Брестская, 258, СИЗО №6

## Кто такие политзаключённые?

*СПРАВКА*

**Авторитетная международная организация «Международная амнистия» политзаключённым называет человека, в лишении свободы которого присутствует существенный политический момент.**

**Политизаключенных зачастую осуждают по итогам процессов, сопровождавшихся нарушениями международных норм справедливого судопроизводства. Иногда их годами держат в предварительном заключении без суда и следствия. Amnesty International требует, чтобы все политические заключенные предстали перед справедливым судом в разумные сроки.**

**В отличие от узников совести, среди политзаключённых могут быть и те, кто прибегал к насильственным действиям (в том числе совершая уголовно-наказуемые деяния), либо призывал к насилию или вражде. Однако все обвинения в их адрес либо их часть могут быть и ложными. Amnesty International добивается лишь того, чтобы дела таких людей были рассмотрены в суде в разумные сроки и с соблюдением всех гарантий справедливого суда, как-то: право на адвоката по своему выбору, отказ от рассмотрения показаний, полученных под пытками и так далее.**

**Термин «политзаключенный» не означает, что человек обладает каким-то особым статусом, или что организация придаёт ему какое-то особое значение. Amnesty International не поддерживает и не опровергает взгляды таких людей, а также никак не оценивает необходимость тех или иных боевых действий в ходе политического противостояния или конфликта.**

*У нумары выкарыстаныя матэрыялы ПЦ «Вясна»*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.